


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (1146) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 12 ЛЮТАГА 1978 г. ЦАНА 60 гр.

## НА ПРАЦЯГУ ТРОХ ГОД

Яшчэ тры гады таму назад на гэтым самым месцы, дзе зараз хата, стадола, хлявы, летняя куханька, была толькі зарошчая травой пустэча. Уладзімір Баршчэўскі са сваёй сям'ёй — жонкай Аняй і шасцігадовым сынам Міркам жыў у вёсцы пры матцы. Ведаў толькі, што там, за загарадзямі маліннікаўскіх хат, надзялілі яму пад будову пляц. Усё пачынаць трэба было ад фундаментаў. Ад найменшай дробязі. Усё з сваіх рук. І пачалі, быццам бы грыбы пасля дажджу, вырастаць адзін за адным гаспадарскія будынкі. Аж цяжка паверыць, што яшчэ тры гады таму назад было тут пуста.

Сваю дарогу гаспадарання Баршчэўскія знайшлі вельмі хутка. Сямігектаровая гаспадарка, з чаго ворнай 4,20 га, не дазволіла заняцца шырэй вырошчваннем. І вырашылі гадаваць свіней. Кормам стараюцца забяспечвацца сваім, хаця СКР у Орлі, з якім увайшлі ў кааперацыю, выконвае кожнае складзенае запатрабаванне. Свінагадоўляй плануюць заняцца ўсур'ёз. Зараз разгарнуць яе шырэй не дазваляюць умовы. Патрэбна новае вялікае памяшканне. А на працягу трох год усяго не зробіш. Але з цягам часу колькасць свіней будзе ўзрастаць. У мінулым годзе мелі іх пятнаццаць штук, з чаго адзінаццаць, вагой у 120 кілаграмаў кожная, прадалі дзяржаве. У гэтым годзе гадуюць шаснаццаць. Усе свайго хову. Ад сваіх свінаматак, якіх маюць шэсць штук.

— Найбольш пры іх клопатаў жонцы, — гаворыць Уладзімір. — Вядома, варыць, карміць. А яшчэ толькі тры месяцы, як уведзена электрычнасць. Дык усё трэба было варыць або на пліце або ў звычайным парніку. А тут яшчэ і будынкі трэба было заканчваць.

Апрача свінагадоўлі займаюцца пакрысе гадоўляй цялят. Прыкладна, у сакавіку бягучага года маюць здаць двух бычкоў. Але Баршчэўскія працавітыя. Уладзімір, апрача таго, што гаспадарыць дома, з'яўляецца гаёвым у прыватных лясах, падлягаючых пад Бельскае надлясніцтва. Кожны дзень трэба зрабіць абход. Паглядзець, што дзе і як. То дрэва некаму адцахаваць трэба, то яшчэ нешта. Жонка займаецца ткацтвам. Ужо дзесяць гадоў, раней — як жылі ў вёсцы, зараз тут, у хаце можна ўбачыць ткацкія кросны, з якіх залацістым пасмам, саломіна па саломіне, выплываюць маты. То гладкія, то з узорамі нейкімі. Аж вока цешыцца.

На сцяне вісіць пажарная блуза. Так, Уладзімір Баршчэўскі ўжо дзевяць год з'яўляецца пажарнікам мясцовай маліннікаўскай каманды. Хата ў Баршчэўскіх вялікая — чатыры пакоі, ванна.

(Працяг на стар. 5)



## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## БЫСТРЫ

Хоць знаходзяцца Быстры воддаль вялікіх шляхоў, але трапіць у іх не цяжка: едучы з Бельска ў Сямяцічы, зусім перад Боцькамі паварочваеце направа і, праехаўшы цераз вёскі Дубна і Нурэц, у 2-3 кіламетрах перад вамі гэтая мясцовасць.

Паўстанне вёскі Быстры трэба звязваць з суседнім колішнім маёнткам Быстры, які ўпамінаецца ў дакументах ужо ў 1592 годзе і да якога вёска належала як паншчынная. Назва ж і маёнтку і вёскі паходзіць, відаць, ад ручая Быстры, левага дапплыву рэчкі Нурчыка. Але больш адлеглая гісторыя гэтых ваколіц тоіцца ў загадкавым **кургане**, па-тутэйшаму каменцы, усланым каменным „плашчом". Археолагі забяспечылі гэты аб'ект, і праз некалькі год, магчыма, прыступяць да яго даследавання, і тады будзе больш вядома пра колішніх насельнікаў гэтай зямлі. Аднак ужо і сёння можна з упэўненасцю сцвердзіць, што тут жылі ўсходнія славяне (праўдападобна, нашчадкі дрыгавічоў) ужо ў VI — X стагоддзях і звязаны яны былі са старажытным горадам Бранскам.

Ці ў выніку бясконцых войнаў, што раз-пораз пракочваліся па Падляшшы, ці з-за частых пошасцей-эпідэмій, але вёска Быстры не разраслася ў вялікае сяло. Сёння ў ёй звыш 40 гаспадарак, аднак перад першай сусветнай вайною тут было ўсяго 12 сялянскіх двароў. Павелічэнне колькасці гаспадарак наступіла ў міжваенны перыяд. Зямлі ж не прыбыло, і з вузенькіх у некалькі пядзяў палосак пражыць было проста немагчыма. Таму быстранцы кідаліся да ўсялякай працы, дзе толькі яна траплялася пад руку. Перш за ўсё па паншчыннай яшчэ традыцыі днявалі і начавалі на падзёншчыне ў пана Мэсенга. Гэтае бядняцкае палажэнне яшчэ больш умацоўвала быстранскую сельскую абшчыну. Людзі тут вельмі дружныя і таварыскія, не любяць сварыцца, або цягацца па судах, і ў радасці і ў няшчасці не толькі калісьці, але і цяпер яны заўсёды трымаюцца разам. У абрадах, звязаных з нараджэннем дзіцяці і паўстаннем новай сям'і, яшчэ і цяпер удзельнічае ўсё сяло, таксама дарослыя і малыя ўсёй грамадой праводзяць пакойніка. Багатая тут таксама і каляндарная абраднасць. Ушаноўваюцца тры калядьі: напярэдадні раждажства, новага года і крашчэння. На першую каляду (перад раждажаством) уносяць у хату і ставяць у покуце пад іконамі снапок збожжа, г. зв. **каляду**. Яна стаіць аж да крашчэння, потым ёю абвязваюць дрэвы ў садзе. На падставе вельмі пільных назіранняў надвор'я, на працягу 12 дзён ад раждажаства да крашчэння, мяркуюць пра пагоду ў

(Працяг на стар. 4)



*Галена і Аляксандр Рыбачукі з вёскі Быстры.*

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ



## Гаворыць начальнік

Землі ў Нарваўскай гміне невысокай якасці. На іх рэкордных ураджаяў цяжка дабіцца. Аднак і ў гэтай галіне шмат зроблена. Амаль не спаткаеш на вёсках такіх фактаў, што з аднаго гектара атрымоўваюць менш як 18 цэнтнераў збожжа. З'яўляецца гэта вынікам лепшай апрацоўкі зямлі, разумнага выкарыстання натуральных і мінеральных угнаенняў. Мінеральных угнаенняў на канец 1977 года было выкуплена звыш 65% прадбачанага планам у бягучым гаспадарчым годзе. Значыць, у галіне мінеральнага ўгнойвання зямлі гміна мае дасягненні. Інфармуе нас аб гэтым начальнік гміннага ўпраўлення ў Нарве Віталіс Пякарскі.

— Значныя дасягненні наша гміна мае, — гаворыць ён, — у рэалізацыі пастаноў партыі і ўрада ў галіне развіцця жывёлагадоўлі. Калі параўнаць цяперашні стан жывёлагадоўлі з аналагічным перыядам мінулага года (на пачатак студзеня), дык пагалоўе быдла ўзрасло на 6,6%, свіней на 9% і авечак на 5,5%.

— Асабліва добрых вынікаў у павелічэнні жывёлагадоўлі дабіўся мясцовы ВЗГР, — працягвае гутарку наш размоўца. — У пачатку 1977 года было там 1129 штук быдла, а на пачатак 1978 года — 1770 штук. Свіней за гэты перыяд павялічылася на гэтым сельскагаспадарчым прадпрыемстве на 1582 штукі, а авечак на 1420 штук.

Як з гэтага вынікае, гміна можа быць у будучым сур'ёзным пастаўшчыкам сельскагаспадарчай прадукцыі. Калі Нарваўская гміна ў далейшых гадах не знізіць дынаміку развіцця жывёлагадоўлі, дык будзе яна сур'ёзным пастаўшчыкам мяса для дзяржавы. Зразумела, што з павелічэннем сельскагаспадарчай прадукцыі выступаюць шматлікія цяжкасці, але выкарыстоўваючы ўсе мерапрыемствы, прадбачаныя II партыйнай канферэнцыяй ПАРП, можна многа зрабіць.

Начальнік гміннага ўпраўлення ў Нарве гаворыць таксама аб значным перавыкананні плана ў продажы малака дзяржаве, а таксама ў продажы сялянам дзяржаўнага фонду зямлі.

— Гмінныя ўлады будуць намагацца, — сказаў, заканчваючы сваё кароткае інтэрв'ю тав. Пякарскі, — каб выкарыстоўваць усе існуючыя рэзервы і магчымасці, звязаныя з павелічэннем сельскагаспадарчай вытворчасці. А гэта ў першую чаргу — больш поўнае і рацыянальнае загаспадараванне і інтэнсіўнае выкарыстанне зямлі ў кожнай вёсцы, а таксама будзем намагацца, каб яшчэ шырэй развіваць кааперацыю і спецыялізацыю ў сельскай гаспадарцы.

**М. Хмялеўскі**
Фота М. Шаховіча

## Будзе заезны дом

Сёлета пачнецца будова заезнага дома ў Супраслі ля скрыжавання вуліц Юльюша Славацкага і Новай. Весці яго будзе Ваяводскае прадпрыемства турыстычных паслуг у Беластоку. У заезным доме прыблізна такім, які пабудавалі ў Чорнай Беластоцкай, будзе рэстаран і гасцініца на 70 начлежных месц. Будзе ён гатовы ў 1980 годзе.

У Супраслі будуць яшчэ пабудаваны спартыўныя пляцоўкі для сяткоўкі і баскетболу, а таксама пляцоўка, дзе турысты змогуць ставіць свае палаткі і адпачываць.

У наступным зімнім сезоне мясцовыя трасы атрымаюць асвятленне, каб можна было карыстацца з іх не толькі ўдзень, але і калі настане ноч.

**Я. Ц.**

 

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ЛЯЧЭННЕ.




Магічнае дзеянне, формулы славеснага тэксту на працягу многіх гадоў былі для людзей тым, чым сёння ўколы, пілюлі, мікстуры. Згодна з вераперакананнем, чалавек знаходзіўся пасярэдзіне дарогі да дзвюх сіл — Зла і Дабра. Ад адной плылі няшчасці, ад другой — дапамога. Адбывалася гэта за пасрэдствам асоб, якія былі быццам бы спалучальнікамі Зямлі з гэтымі сіламі. Істотнаю ў пасняховасці лячэння была аднак вера ў дапамогу, у выздараўленне, у сілу слова і дзеяння. Часта ў замовах адклікаліся да Космасу. Космас у перакананні людзей, з увагі на сваю таямнічасць быў чымсьці божаскім, месцам пасялення звышнатуральных сіл. Адтуль чакалі дапамогі. Безупыннае спагляданне ў Неба лёгка заўважаецца ў народным лячэнні, таму што ў гэтым выпадку дапамога была найбольш патрэбнай. І малітва, уплеценая ў кантэкст замовы, гэта не толькі рэлігійная афарбоўка, але спроба паразумення з Небам. Характар малітвы залежыць ад рэлігіі, але мэта замовы заўсёды тая ж самая. Гляньма на некалькі жывых яшчэ замоў ад зубнога болю. Пераканаемся ў вялікай іх сходнасці. Апрача рэлігійнай афарбоўкі, якая паказвае на жывучасць замовы, паўтараюцца тры элементы: дуб, камень і месяц. Вялікую дапаможную ролю выконваў месяц. Асабліва, так званы „малады месяц“. У той час, калі свяціў гэтакі месяц, можна было лёгка пазбыцца болю зубоў. Хапіла толькі правесці з сабой наступны дыялаг:

„— Księżycu, księżycu,
Niebieski dziedzicu.
Czy zęby bolą umarłemu?
— Nie!
— Niech nie bolą i mnie”.

і боль зубоў праходзіў. Гэты монадыялаг яшчэ па сённяшні дзень, праўда, няма ўжо ў яго такой веры, як была раней, прабытаваў у Галіцкіх, дзе і ўдалося яго запісаць.

Пераважная колькасць захаваных замоў выступае на польскай мове. І не толькі пры замаўлянні болю зубоў.

Прывядзем яшчэ іншы прыклад, запісаны ў Нарве. Замова гэтая выступае ў спалучэнні з малітвай, што выразна паказвае на старанне пранікнення ў таямнічасць і магутнасць Неба, месцазнаходжання, згодна з перакананнем, усемагутнай сілы. Пасля выказвання тэксту —

„Dąb w lesie,
Kamień w morzu,
Miesiąc na niebie,
Jak te trzy rzeczy zejdą się do kupy
Niech mnie wtedy zęby nie bolą”.

адмаўлялі тры разы „Багародзіцу“. Іншы крыху варыянт удалося запісаць у Локніцы, што ў Бельскай гміне. З'яўляецца ён выпісам з кружачага ў гэтай мясцовасці сшытка, будучага копіяй бліжэй невядомага польскага арыгіналу. Апрача галоўнага тэксту ёсць у ёй і характар апісальны, што відаць ужо ў самым загалоўку — „Ból zębów jak zamówić, zmówić modlitwę Pańską Ojcze Nasz“. Замова поўнасцю пераплецена з элементамі хрысціянскай рэлігіі, што паказвае на доўгую яе жыццёвасць. Час толькі накладаў на яе свае пласты. Ядром даўнейшага яе выгляду засталіся паўтараючыеся і ў іншых замовах тры элементы: дуб, камень і месяц. Вось гляньма:

„Bożą mocą, Pana Jezusa pomocą,
Dąb w boru, kamień w morzu,
Księżyc na niebie, że póki cię strzegł,
Bracia mocni się pospołu nie zejdą
tak długo niech mnie zęby nie bolą.
Przez Pana Boga Moc Syna i Ducha Świętego pomoc i Aniołów jego Swięte ciało Boga Ojca i Syna i Ducha, Amen, Amen, Amen”.

Да нядаўна ў Лубніках Заблудаўскай гміны практыкавалася формула замаўляння вынікаў „цугу“ (скразняку). Прымянялі яе таксама і пры болі зубоў, таму што лічылі яго вынікам скразняку — „цугу“. Апрача славеснага тэксту, у замове гэтай ёсць і магічнае дзеянне. Пасля формулы —

„Nowy Księżycu, na nowiu nastajesz,
Zapytaj zmarłego,
(тут прыводзіцца імя памёршага),
czy nie bolą zęby jego.
Jak nie bolą jego, niech nie bolą i mnie żywego.
Amen, Amen, Amen.”

— адмаўлялі тры разы „Багародзіцу“ і

(Працяг на стар. 5)

ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК



# ВІКТАРА ШВЕДА — паэзія па-за прыстанню

Паэзія Віктара Шведа, аўтара некалькіх паэтычных кніжак, дзякуючы якім ён замацаваў сваё месца ў беларускай літаратуры, нараджаецца з канкрэтнасці, скажам інакш: акружаючую рэчаіснасць ён спрабуе падпарадкаваць уласным паэтычным канцэпцыям, уласнай ідэалогіі. Жыццёвая сцежка, якая становіцца сумай паэтычнага вопыту, важнага і менш важнага, ставіць існуючую і мінаючую рэчаіснасць у акрэсленым святле. І не ўсё, што стаць можа важным, можа горкім, заўважаецца. Але выбар належыць паэту. Значыць, гэта аперацыя настолькі цудоўная, наколькі небяспечная. Перш за ўсё захапляе настойлівасць, з якой углыбляецца паэт у „нямодныя“ тэмы, паддаючыся націскам сітуацый, як быццам славячая творчасць была падыктавана цяжкім жыццём аўтара. І небяспечная з-за таго, што немагчыма быць паэтам, пішучы радкі поўныя захапленняў, ці „папяровых“ сцвярджэнняў. Тады не хапае душы, якая б апанавала і целам (скажам: формай верша, не раз будучай на высокім мастацкім узроўні). Тады мы гаворым пра паэзію з нагоды, пра паэзію „быць паэтам“. Хоць з пункту гледжання сацыялогіі гэты шлях можна вытлумачыць. Бацькоўскі парог і шлях асабістага няспыннага грамадскага павышэння, прыбавім: поўнага самаахвярнасці і веры, высакародных імкненняў, унутранага раздвaення на вёску і горад — усё гэта падпарадкавана прынцыпу „быць тут і цяпер“. І не патрабуйма ад паэта драмы — нястачы месца. Аднак паэт усведамляе сваю місію, якой падпарадкоўвае свой лёс. У адным з першых вершаў ён сцвярджае:

*Я — беларус, і гэтым ганаруся.*
*Усім душу сваю магу адкрыць:*
*Ніколі і нідзе не адракуся,*
*Што беларусам жыў і буду жыць!*

Такім чынам, місія Віктара Шведа засноўваецца на вылаўліванні з літаратурнага пейзажу ўсіх тых элементаў, якія служаць умацоўванню нацыянальнай свядомасці. Значыць, гэта ў сваёй сутнасці — асаблівая місія. І ўсведамляе сабе паэт, якую важную ролю ўзяў ён на сябе. І паэзія, што ён піша, з'яўляецца трыбунай яго думак і яго імкненняў. І яна не накіравана толькі на ўнутр, да ўласных хістанняў і непакояў. Гэта паэзія стварэння, а не неспакойнай рэфлексіі. З гэтага, бадай, і бярэць пачатак шматлікія непаразуменні. А паэзія Шведа не імкнецца быць моднай, але праўдзівай. Так як праўдзівым з'яўляецца шлях, які прайшоў сам паэт.

Ёсць у паэзіі Шведа іншая плынь, супраціўлення, пратэсту супраць насілля і гвалту. Плынь істотная ўжо ў саміх сваіх гуманітарных прынцыпах. І можа гэтыя закіды здадуцца беспадстаўнымі, калі супаставім іх з заангажаваннем паэзіі Шведа ў барацьбу супраць антыгуманітарнага характару жыцця. А шукае паэт „паэтычнай сітуацыі“ ў гадавінах, героях і людзях, што яшчэ не сталі помнікамі, у звычайных Сябрах, якім лёс вызначыў іменна шлях ціхага гераізму.

Аднак жа, паўтараю, не тыповую дарогу выбраў паэт. І ў традыцыйную форму апрануў свой верш. І ніць фабулы ўваткаў паэт у вершы. Успаміны парэзаў на здарэнні, і можа „роднасць“, хапленне самім сабою, без стогну, падякая паяўляецца ў вершах Шведа, рэаліі дзяцінства без эгацэнтрычнага запарадкаваная Гісторыі, ліквідуе гэтую небяспеку. Але паяўляецца таксама шмат паваротаў, якіх час не паскупіў паэту. Ён выхаваны на ўзорах паэзіі часу вайны, асабліва на заангажаванай рускай і беларускай паэзіі, як сам пра гэта піша: „Пісаць вершы па-беларуску пачаў я ў арлянскай дзесяцігодцы. У 1940 годзе мяне накіравалі са сшыткам вершаў, у якіх я ўсхваляў народную ўладу, на раённы конкурс...“ Потым запанавала літаратура сацыялістычнага рэалізму, затым расшумелася паэтычная Варшава і Арыентацыя, прыносячы громкія і пустыя маніфесты. Такая рэчаіснасць лягла на шляху Віктара Шведа.

У паэтычнай творчасці Віктара Шведа ёсць дзялянка дзіцячай літаратуры, яе ў значнай меры запачаткавалі вершы, у аснову якіх пакладзена вёска дзяцінства, вёска памяці — Мора. Гэта самая каштоўная дзялянка ў творчасці Шведа, свет бліскучых мэтафар, якімі іскрацца яе радкі, напеўнага верша, якім дзіця ўзбагачае ўласны вобраз свету. І гэта ўжо не паэзія заангажавання, высокіх ідэй, а гэта паэзія рэфлексій, роздуму, гульні, народжанай некалькімі павучэннямі, не адступаючай дзеля эксперыменту ад „роднага кутка“. Гэтая дабрадушнасць паэзіі Віктара Шведа іменна ў дзіцячых вершах знаходзіць свае атоесамленне. Кругагляд дзіцяці, замкнуты ў „ісцінах“, што адрасуюцца такому ўзросту, узбагачаны элементамі, якія ствараюць магічныя час і прастору. І паэт патрапіць

(Працяг на стар. 4)




В. Ткачук. Зіма ў Раўбічах.

ВЫДУМКІ З ПРЫПЕВАМ




I

Мараплавец Калумб, славуты адкрывацель Амерыкі, да канца сваіх дзён верыў, што адкрыў шлях ў Індыю. І хоць землі Новага Свету, іх жыхары, абрысы берагоў і астравоў зусім не былі падобнымі да азіяцкіх, Калумб упарта называў чорнае белым, а белае — чорным. Востраў Кубу ён прыняў за Малакскі паўвостраў. І прымусіў усю каманду прысягнуць — так, Куба — паўвостраў. На Антыльскіх астравах, паведамляў ён, былі негры. У сапраўднасці негры з'явіліся тут куды пазней, калі іх пачалі прывозіць з Афрыкі для працы на плантацыях.

Памылак Калумба вельмі многа. Як Дон Кіхот, ён бачыў у навакольным свеце тое, што яму хацелася бачыць, а не тое, што бачылі яго вочы.

2.

Мараплавец Кірас марыў стаць другім Калумбам і адкрыць у Ціхім акіяне новы Новы Свет — велізарны Паўднёвы мацярык, поўны золата, серабра, жэмчуга, каштоўных прыпраў і чорнаскурых нявольнікаў. 27 красавіка 1606 года ў паўднёва-заходняй частцы Акіяніі была адкрыта зямля „з высокімі гарамі, абяцаючымі цэлы мацярык“. Зямля была населена цёмнаскурымі жыхарамі. Кірас урачыста ўвёў ва ўладанне іспанскай кароны „усе гэтыя землі, як тыя, якія я ўжо бачыў, так і тыя, якія ўбачу ў далейшым, усю гэту краіну Поўдня да самага полюса“, бо „па працягласці яна большая за ўсю Еўропу і Малую Азію, узятую ў яе граніцах да Каспія і Персіі, Еўропу з усімі астравамі Міжземнага мора і Атлантычнага акіяна, уключна з Англіяй і Ірландыяй. Гэта скрытая некалі Зямля займае чвэрць свету“. У сапраўднасці зямля, адкрытая Кірасам, займала ўсяго толькі некалькі соцень квадратных кіламетраў — гэта быў адзін з астравоў у групе Новых Гебрыд. Кірас заявіў, што тут растуць мускатныя арэхі, імбір і карыца, каштоўныя прыправы, але іх тут ніколі не было. „Серабро і жэмчуг я бачыў уласнымі вачыма, а наконт золата мне гаварылі мае капітаны“, — сведчыць Кірас. У сапраўднасці ні золата, ні серабра, ні жэмчуга на Новагебрыдскіх астравах няма!

3

Знакаміты капітан фрэгатаў Джэймс Кук, самы цвярозы і назіральны з усіх мараходаў XVIII стагоддзя, пісаў аб „каралях“, „феадалах“, „землеўласніках“, якія быццам ёсць на астравах Акіяніі. У сапраўднасці ўласнасць на зямлю ў астраўлян была грамадская.

Ці мог такі факт укласціся ў галаве праўдзівага сына Альбіёна?

Кім жа тады быў у сапраўднасці Кук? Ілгуном? Не, таксама, як і Кірас. Таксама, як Дон Кіхот. І як Калумб. Усе яны бачылі тое, што ім хацелася бачыць.

*Прыпеў*

Гэта іх ветразі перасякаюць сёння сухапутныя мерыдыяны шмат якіх (мара)ходных відавочнікаў.

**Жорж Ювэ**

З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

## Клуб інтэрнацыянальнай дружбы

Пры Навагрудскім гандлёва-эканамічным тэхнікуме працуе клуб інтэрнацыянальнай дружбы. Ён падтрымлівае сувязі з львоўскім, ерэванскім, алма-ацінскім, кішынёўскім тэхнікумамі і іншымі падобнымі навучальнымі ўстановамі краіны.

Завязалася таксама сяброўства з Беластоцкім эканамічным ліцэем імя Каперніка. Навагрудчане пасылаюць у Беласток кнігі і розныя матэрыялы, якія расказваюць аб родным горадзе, Беларусі, аб сваёй вучобе, адпачынку.

Савет клуба на чале з Т. Пабяльгай падтрымлівае цесную сувязь з раённым аддзяленнем Таварыства савецка-польскай дружбы.



 

# Быстры

(Працяг са стар. 1)

наступаючым годзе, напрыклад, якое надвор'е бывае на першы дзень ражджаства, такое яно будзе ў месяцы студзені, якое на другі дзень ражджаства — такое ў лютым і г.г. Некаторыя нават вельмі падрабязна запісваюць свае назіранні. Праўда, сёння ўжо значна радзей быстранцы карыстаюцца гэтым прагнозам, больш вераць метэаралагічным перадачам па радыё і тэлевізару.

Гэтае замілаванне да роднай традыцыі зусім не перашкаджала і не перашкаджае быстранцам актыўна ўспрыймаць важныя падзеі ў грамадстве. У даваенны час тут дзейнічаў член КПЗБ **Аляксей Вашчук.** Выдаў яго вядомы правакатар Стральчук. А. Вашчук пакутваў у дэфензіве ў Бельску, сядзеў у турме ў Беластоку. Ад катаванняў на допытах страціў слух, а потым захварэў на сухоты і памёр у сіле веку. Актыўным прапагандыстам падпольнага і легальнага прагрэсіўнага друку, агітатарам за Грамаду быў **Фёдар Рыбачук,** якога потым расстралялі гітлераўцы. У гэтых ваколіцах дзейнічалі партызаны. Асабліва вялікую аператыўнасць праяўляў атрад імя Пархоменкі, на чале якога быў савецкі афіцэр **С. Дзікуноў.** Яны ўзрывалі цягнікі на чыгуначнай лініі Бельск-Чаромха, палілі нямецкія маёнткі. С. Дзікуноў загінуў у часе выканання баявога задання. Ён быў жанаты на дзяўчыне з вёскі Шчыты. Яго сын пасля заканчэння Бельскага беларускага ліцэя паступіў у Ваенную медыцынскую акадэмію і цяпер з'яўляецца ваенным лекарам.

Пасля вайны многія з быстранскай моладзі закончылі сярэднія і вышэйшыя школы, між іншым, вышэйшую адукацыю маюць: **Варвара Гайко, Яўген і Мікалай Вашчукі, Аляксандр Мусько** і інш. Але гэта не абазначае, што людзі тут занядбоўваюць зямлю. На пашыраных пасля зямельнай рэформы 1946 г. коштам маёнтку гаспадарках вельмі старанліва працуюць тутэйшыя сем'і: **Вашчукоў, Верхаўцоў, Гайкоў, Герадаў, Дзмітрукоў, Іванюкоў, Каледзюкоў, Кубэрскіх, Максімюкоў, Муськаў, Рыбачукоў, Тарасюкоў, Трачукоў, Федарукоў, Хмураў, Цімашукоў.** І дзякуючы іх старанлівай працы на палетках у **Ліпніку, Надатках, Навінах, Паналочку, Шырокіх** ды на лугах у **Бартошку, Ліванёўшчыне** і **Хвашчэўшчыне** ўсё родзіць нядрэнна. Самай выдатнай жа з'яўляецца гаспадарка **Аляксандра і Уладзіміра Рыбачукоў.** Яны гаспадараць на 23 га, гадуюць многа быдла і свіней. У год прадаюць дзяржаве каля 5 тон збожжа, 10-15 т бульбы, 2-3 т лубіну, дастаўляюць штодня па 40-60 літраў малака. У гэтым годзе збіраюцца прадаць 10 кормнікаў і 5 штук убойнага быдла. Таксама вельмі добрую гаспадарку вядзе **Андрэй Гайко,** які займаецца ў асноўным гадоўляй быдла. А і іншыя імкнуцца ім не ўступаць.

Такія Быстры над пакручастай рэчачкай Трасцянкай.

**М. Гайдук**
Фота аўтара

СЯБРЫ „НІВЫ"

## І на пошце, і на гаспадарцы



— Пытаеце, як мне працуецца лістаношам, — **Сяргей Васілюк** папраўляе ў сваёй бяздоннай торбе тоўстыя плікі „Нівы", бо тады якраз была пятніца, задумваецца на хвіліну і кажа: — Што ж, бывае па-рознаму, бо людзі не анёлы. Вось, для прыкладу, у Малінніках ёсць аж тры Іванюкі з тым самым іменем. Аднойчы аддаў я аднаму з іх заказное пісьмо, ён мне распісаўся і, здавалася б, усё ў парадку. Аказалася, аднак, што гэта быў чалавек блаті. У лісце было бясплатнае скіраванне ў санаторый, якое належалася зусім іншаму Іванюку. А той усё ж паехаў па чужому скіраванню, нічога нікому не сказаўшы. Калі справа выяснілася, усе абвінавачанні зваліліся на мяне: і прыкрасць ад чалавека, і непрыемнасці па службе. Адкуль жа мне ведаць, хто ў вёсцы лечыцца і што каму ў лістах прысылаюць? У чым жа мая віна? Хіба толькі ў тым, што ў маім раёне жыве несумленны, нядобры чалавек...

С. Васілюк працуе пісьманосцам на пошце ў Грыгораўцах ужо дванаццаць год. У раёне яго працы — Грыгораўцах, Тапчыкалах і Пашкоўшчыне каля 350 адрасатаў, яны выпісваюць 534 экземпляры розных газет і часопісаў, у тым ліку 110 экземпляраў „Нівы". Цікава заўважыць, што ў мінулым годзе тут былі 92 падпісчыкі нашага тыднёвіка. Таму рэдка калі сумка пісьманосца бывае лёгкай. Працы таксама — ад ранку да вечара. А апрача гэтага ёсць гаспадарка, бо з заробкаў на пошце нялёгка ўтрымаць сям'ю. Бацькі ўжо старыя, таму трэба і сваё абтупаць і ім дапамагчы. Ну і не хочацца быць горшым ад іншых і ў гадоўлі і ва ўраджаях на полі. Вялікі, светлы, прыгожы новы дом — таксама плён старанлівасці сям'і Іванюкоў. Бо і жонка майго размоўцы, Валянціна, управіўшыся ў гаспадарцы і хаце, увесь час працуе за кроснамі — — тчэ саламяныя маты і таксама ладны грош у хату дае.

Нездарма кажуць людзі: гаспадарлівы ды дбайны ні сцюжы, ні спёкі не баіцца. **(іс)**

(Працяг са стар. 3)

## Віктара Шведа - паэзія па-за прыстанню

вычараваць з гэтага свету лад і прастату, і патрапіць назваць рэч па імені. Хоць можа здавацца, што паэт адносіцца да гэтай дзялянкі сваёй творчасці легкавата, быццам прыжмурыўшы вока. Супастаўляе традыцыйныя элементы дзіцячай паэзіі з новымі і ў яго атрымоўваецца вельмі арыгінальны гумар. І калі глянуць на гэтую творчасць з боку дзіцячага ўяўлення — гэта ўсё вершы, якія вучаць дзякуючы маралі, скрытай у эпічных прытчах, амаль філасофскіх.

Творчасць Віктара Шведа — наколькі можна прадбачыць — будзе і надалей аставацца больш вернай тым прынцыпам, якія дыктуе жыццё, чым тым, якія выпрацуе сам паэт. Гэтая драма здаецца праблемай, якая не павінна выступаць, бо паэту спадарожнічае тая сардэчная, блізкая самым уражлівым на прыгажосць плынь творчасці, што прысвечана юнаму чытачу. Там таксама захаваецца заўсёды жывая і заўсёды неабходная нотка маралізатарства. У гэтай плыні трывалае месца заняла велічыня паэтычных здзяйсненняў Віктара Шведа, што нарадзілася па-за спакоем паэтычнай прыстані.

**Ян Леанчук**
Фота Я. Цялушэцкага



**Гарадскія замалёўкі.** *Беласток, у новым жыллёвым прывакзальным раёне.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*




*Напярэдадні Новага года адзін беластоцкі задрыпанец выбраўся ў яслі па трохгадовага сына. Быў задрыпанец ужо падвыпіўшы. Схапіў малога і апрануў, хоць той голасна супраціўляўся. Калі і на вуліцы хлопчык не перастаў верашчаць, знерваваны тата ўляпіў яму па мяккім месцы:*

*— Чаго раскрычаўся? Нясу ж цябе дахаты!*

*— Так... але ты не мой тата!*

## Бельскі СКР гадуе

Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Бельску гадуе 400 свіней у прыстасаваным на хлеўню будынку ў Шасталах. У мінулым годзе пачала пабудову свінарнікаў на звыш 2 100 месц.

СКР вядзе шырокую кааперацыю з індывідуальнымі гаспадарамі. Ад адных купляе парасят, другім дае іх для далейшага адкорму. Найбольш парасят прадаюць СКРу Аляксей Прыступа з Бельска, Юры Верамеюк з Аўгустова і Ян Петшыкоўскі з Петшыкова-Галамбкова. У другім выпадку вялікі вопыт у гадоўлі тучнікоў маюць кааператары Барыс Аверчук з Бельска (ён аднаразова ставіць для адкормкі 125 свіней) і Уладзімір Міхальчук з Кожына (ён мае месца для 120 штук). Варта дадаць, што У. Міхальчук умела прыстасаваў гаспадарчы будынак на абору і ў мінулым годзе за свой праект атрымаў узнагароду ў конкурсе „Залатая веха".

Бельская спулдзельня гадуе таксама курэй-нясушак. Мае іх 4 600 штук. За паўгода ад іх прадала дзяржаве 593 тысячы яек. У сярэднім ад кожнай курыцы мае па 220 яек. **(ця)**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XVI

**Заканчэнне.** Дарэвалюцыйная проза Бядулі — гэта цікавая з'ява на фоне тагачаснай беларускай прозы. Праўда, Бядуля не стварыў у прозе новага стылю, не ўнёс у яе таксама новай праблематыкі, ці новага тыпу героя. Аставаўся ён у рамках тых праблем і тых тэм, якія былі характэрнымі і для нашых празаікаў нашаніўскай пары. І нягледзячы на гэта, нельга сказаць, што проза Бядулі гэта проза паўтораў. Амаль ва ўсіх яго апавяданнях выступаюць арыгінальныя элементы. Дакастрычніцкая проза Бядулі заключае ў сабе нейкую спецыфічную атмасферу чагосьці настальгічнага, пранізанага задуменнем, спачуваннем і жалем.

Бадай што да найважнейшых рыс прозы пісьменніка належаць:

I. Сялянская монатэма. Пісьменнік амаль поўнасцю ўсе свае дарэвалюцыйныя творы прысвяціў сялянскім постацям і вясковай рэчаіснасці. Трэба сказаць, што нягледзячы на сваё мяшчанскае паходжанне, пісьменнік добра ведаў рэаліі сялянскай рэчаіснасці і добра паказаў іх у сваіх апавяданнях.

II. Спачуванне пакрыўджанаму чалавеку. Бядуля быў, несумненна, пісьменнікам, які ўводзіў у прозу „малога чалавека". Грамадная большасць яго герояў гэта людзі, пакрыўджаныя грамадскімі адносінамі, іншымі людзьмі, лёсам або самімі сабой. Так ці інакш, адчуваецца струмень аўтарскай сімпатыі да тых, што не ў стане перамагчы цяжкасці, хто ўсё ніжэй згінаецца пад цяжарам лёсу.

III. Глыбокая зацікаўленасць постацямі дзяцей. Пісьменнік не стварыў такіх пераканаўчых і глыбокіх у псіхалагічным сэнсе тыпаў дзяцей, як гэта бачым, напрыклад, у апавяданні Цёткі „Міхаська", аднак здолеў паказаць цікавыя і часта драматычныя дзіцячыя персанажы. У дзіцячых апавяданнях Бядулі яшчэ больш чым у прозе аб дарослых праяўляецца спачуванне аўтара сваім нешчаслівым героям. Нельга не падкрэсліць, што постаці пакрыўджаных дзяцей, дзяцей без дзяцінства выступаюць толькі ў частцы яго дарэвалюцыйных твораў. У некаторых апавяданнях паказаў ён дзяцей у звычайных матэрыяльных і духоўных умовах.

IV. Увага да жыцця вясковай жанчыны. Бядуля стварыў некалькі пераканаўчых сваёй унутранай праўдай постацей жанчын. Па сутнасці ніводная з гэтых постацей не належыць да шчаслівых. Амаль усе церпяць і мучацца, найчасцей з прычыны матэрыяльнага ўбоства, тыраніі мужа, эгаізму дзяцей. Пры гэтай нагодзе пісьменнік вельмі часта закранае праблему старасці. Амаль заўсёды ў Бядулі чалавек стары гэта чалавек самотны. Пазбаўлены ён увагі, цяпла і апекі не толькі з боку чужых, але і з боку блізкіх.

V. Стылістычная двайстасць прозы. Як вядома, дарэвалюцыйныя апавяданні Бядулі рэзка падзяляюцца на плынь рэфлексійна-лірычную і рэалістычна-бытавую. У рэфлексійна-лірычнай маем дачыненне з свайго роду аўтарскім гамлетызмам. У сваіх інтарэсах пісьменнік супастаўляе самога сябе з рэштай свету. Можам тут гаварыць аб праявах эгацэнтрызму. У апавяданнях рэалістычна-бытавых адыходзіць ён на далейшы план, аддаючы месца на сцэне сваім героям.

У суме дакастрычніцкая проза Бядулі стварае цікавую літаратурную, грамадскую і этычную з'яву.

## ТАК БЫВАЕ...

# АЖЫЎ!

Стаіць побач з табою чалавек, размаўляе, жартуе, адказвае на пытанні. І родзіцца да яго давер і сімпатыя. Табе і ў галаву не прыходзіць, што гэта нядобры чалавек. А ён даверлівым прапанаваў выпіць з ім піва, а нават 100 грам. І калі яго прапановы не насцярожылі цябе і ты іх прыняў, а падчас піцця піва ці гарэлкі яшчэ прагаварыўся, што маеш грошы, — дык тады бяда табе! Ніколі не будзь хуткім да піцця з незнаёмым чалавекам, бо здараюцца такія, як Ян Дамброўскі з Аўгустова.

Мечыслаў Васілеўскі, жыхар гэтага ж самага горада таксама не падазраваў, што прапануе яму піва, а пасля гарэлку злачынца, разбойнік, які са сваёю шайкай пазбавіў жыцця многіх людзей.

Падчас такой выпіўкі Васілеўскі пашчырнічаў, ці можа пахваліўся, што мае з сабою тры тысячы злотых і плануе купіць мотаролер. Шайка, у якой бралі таксама ўдзел дзве жанчыны, спаіла сваю ахвяру, а пазней жанчыны-злачынцы звабілі яго ў зараснік, куды хутка прыйшоў Ян Дамброўскі і, калі Васілеўскі не хацеў аддаць грошай, пачаў біць яго цвёрдым прадметам па галаве да тых пор, пакуль гэты няшчаснік цалкам не аддаў духу. Забраўшы ў яго грошы, бандыцкая шайка зацягнула Васілеўскага на суседняе бульбянішча і ў баразне засыпала яго зямлёю.

І знік чалавек, як камфора. У хаце не маглі яго дачакацца. Мінуў дзень, два, пяць, а яго ўсё няма ды няма. Жонка наплакалася і стала дапускаць да сябе думку аб тым, што муж яе напэўна не жыве, што за што-небудзь хтосьці забіў яго і мо ўкінуў у возера ці якую-небудзь канаву, бо аб такіх выпадках было чуваць у Аўгустове.

— Каб як найхутчэй знайсці яго цела, — гаварыла жонка, — і то было б лягчэй, бо пахавала б па-людску і магла б хадзіць на магілу ды ставіць свечкі.

І Васілеўскага ўсюды шукалі, а ён ляжаў непадалёку ад Гродзенскай вуліцы ў бульбянішчы. Па гэтай вуліцы хадзілі людзі, а забойцы спаглядалі ў яго напрамку і думалі аб тым, што за такую суму аплацілася „работа“, таму што бывала часам і так, што, забіўшы чалавека, знаходзілі ў яго толькі 20 зл.

У той час былі дажджлівыя дні і ночы. Дождж пачаў змываць зямлю з ляжачага чалавека. І вось на шосты дзень ад трагічнага выпадку прахожы выпадкова заўважыў ногі чалавека, якія тырчалі з зямлі. На яго паведамленне хутка прыехала міліцыя. Адкапалі чалавека; падчас медыцынскага агляду было заўважана, што ў яго адзываецца пульс. Неабходна была трэпанацыя чэрапа. Але за аперацыю ніхто не хацеў брацца. Амаль усе былі пераканаваны ў тым, што гэта аперацыя была б бескарыснай бо няма шанцаў на выратаванне ад смерці амаль ужо нежывога чалавека, які праляжаў, прыкрыты зямлёй, 140 гадзін.

І ўрэшце малады лекар прыступіў да аперацыі. І о дзіва! Гэты нязвыклы пацыент добра яе перанёс. Страшэнна быў худы. Малодшая сястра насіла па шпіталі на руках дарослага чалавека, як носяць дзіця.

І стаўся цуд. Прайшло паўтара месяца ад выпадку, і нядаўны труп апрытомнеў. А прайшло паўгода, і Васілеўскі выйшаў з бальніцы.

Так чалавек, які меў ужо не жыць, жыве ўжо больш як сем год і да сённяшняга дня не можа сабе ўявіць, што быў ён ужо, як кажуць, „на тым свеце“.

Лекары даказваюць, што ўтрымаўся ён пры жыцці толькі таму, што карыснае ўздзеянне зрабілі гарэлка і дождж. Гарэлка павялічвала тэмпературу цела. Але найбольшую ролю адыграў дождж. Дзякуючы яму, арганізм Васілеўскага не адвадніўся.

**Міхась Сваяк**

(Працяг са стар. 3)

за кожным разам прыкладалі да хворага месца свянцоны нож. Пры гэтым дзеянні выразна відаць след, адціснуты хрысціянскай рэлігіяй. Была і формула на адстрашванне болю зубоў. Каб яго пазбегчы, гаварылі:

„Biją pioruny,
Biją w leśne dęby
I w te głowy,
Którym bolą zęby”.

Згодна з вераперакананнем людзей, боль зубоў знішчалі адшчапіны дрэва, у якое ўдарыў гром. Хапіла толькі прылажыць да зуба адшчапіну з гэткага дрэва, і боль мінаў. Частка замоў не толькі страціла сваю сілу, што было вынікам развіцця навуковай медыцыны і змены светапогляду людзей, але і перайшла ў разрад нейкіх жартаў. Прыкладам сказанага з'яўляецца хаця б гэтакі тэкст, запісаны ў ваколіцы Заблудава. Прывядзем поўную форму:

„Зубы мае, зубы,
коб нэ віетэ, зубы,
то была бы
с...а з губы.

Не толькі там. Шырока распаўсюджана гэтая форма і на Бельшчыне.




Выступае таксама і на польскай мове. Часта ўплыталі ў кантэкст гэтай замовы-жарту мясцовыя назвы палавых органаў. Падсумоўваючы сказанае, яшчэ трэба паказаць на тое, што істотную ролю ў замовах на зніманне болю зубоў адыгрывалі тры рэчы: месяц, дуб і камень. Дуб і камень паказвае на сілу, на магутнасць, месяц — гэта як бы пранікание ў Неба. Гэта нейкая таямнічасць. Сёння, зразумела, гэта мінулае. Замовы страцілі сваю сілу. Але яны выразна паказваюць на светапогляд чалавека, на ролю таямнічасці ў яго жыцці. Замова — гэта спроба самазабеспячэння. І калі прыходзіла выздараўленне, то не дзякуючы замовам, але безгранічнай веры. Паказваюць на яе вялікую ролю ў лячэнні хвароб.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ДЗІЦЯЧАЯ




*Чорна курыца, чорна,*
*надзёўбалася зярна,*
*як дзень, дзень,*
*так ноц, ноц,*
*як біда — так гоц, гоц,*
*надзёўбалася зярна.*
*На старане сідзела —*
*сем коп ячменю з'ела,*
*як дзень, дзень,*
*так ноц, ноц,*
*як біда — так гоц, гоц,*
*сем коп ячменю з'ела.*
*Сем коп ячменю з'ела,*
*цэбэр вады выпіла,*
*як дзень, дзень,*
*так ноц, ноц,*
*як біда — так гоц, гоц,*
*цэбэр вады выпіла.*
*Цэбэр вады выпіла —*
*бодай ты здорова была,*
*як дзень, дзень,*
*так ноц, ноц,*
*як біда — так гоц, гоц,*
*бодай ты здорова была.*
*Прышла на курку осень,*
*курыца ходзіт боса,*
*як дзень, дзень,*
*так ноц, ноц,*
*як біда — так гоц, гоц,*
*курыца ходзіт боса.*
*Прышла на курку зіма,*
*курыца месца німа,*
*як дзень, дзень,*
*так ноц, ноц,*
*як біда — так гоц, гоц,*
*курыца месца німа.*
*Прышла на курку вёсна,*
*курыца яйцо знёсла,*
*як дзень, дзень,*
*так ноц, ноц,*
*як біда — так гоц, гоц,*
*курыца яйцо знёсла.*

Ад Ольгі Галубоўскай, 1914 года нараджэння, вёска Новае Ляўкова гм. Нараўка, запісаў 16 лістапада 1977 года Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя Людмілы Панько.

## „Гайдучок“

„Гайдучок“ — так называецца новая прыгожая кавярня на другім паверсе новага будынка ў цэнтры Бельска па вуліцы Міцкевіча. Памяшчае восемдзесят чалавек і займае плошчу звыш трохсот квадратных метраў. Летам можна будзе даставіць яшчэ пару столікаў і 20 крэслаў на тэрасе пад прыгожымі каляровымі парасонамі. У зале пахне яшчэ свежай фарбай. Яе ўпрыгожваюць каштоўныя арыгінальныя дэкарацыі з металапластыкі, барэльефы з медзі, свечнікі, люстра, святло мякка прасочваецца праз дэкаратыўную тканіну са столі.

Не толькі кава „фарысей“, кактэйль „гайдучок“, сырнік падляшскі і дэсерт „Афрадыта“ прыцягваюць сюды людзей. Можна тут павесяліцца, патанцаваць. Два разы ў тыдзень, у аўторкі і чацвяргі, у гадзінах 17—22 адбываюцца дыскатэкі.

Кавярня „Гайдучок“ частуе любіцеляў кавы не толькі кавай і салодкімі піражкамі ўласнага вырабу, але на снеданне тут падаюць фрыткі, яешню, гамбургеры, падагрэтую каўбасу, клёцкі.

Працаваць у новую кавярню прыйшлі людзі з адпаведнай прафесіянальнай падрыхтоўкай. Да такіх належаць перш за ўсё кіраўнічка Валянціна Капонава і намеснік Ірэна Цесялкевіч. За буфетам абслугоўваюць тут Валянціна Парфенюк і Паўліна Трафімюк. Працуюць чатыры афіцыянткі.

**Я. Целушэцкі**



*Анна Баршчэўская ўжо дзесяць год займаецца ткацтвам.*

(Працяг са стар. 1)

# НА ПРАЦЯГУ ТРОХ ГОД

— Яшчэ не закончана, але стараліся, каб хаця пакой і кухню. Жыць увайшлі дзесьці ў ліпені. Так хацелася, каб перад Ільёй — гэта ў нас адпуст. Каб не святкаваць ужо ў гэтай летняй куханьцы. Каб пасядзець, пагасціць было дзе.

Але ўсё паступова. Памалу заканчваюць. У гэтым годзе плануюць правесці ваду. Матэрыялы ўжо ёсць і з вясны можна будзе пачынаць.

У кутку стаіць камплект новых барабанаў. Уладзімір Баршчэўскі — перкусіст. Ды не толькі. Іграе таксама і на гітары. Ад пятнаццаці гадоў ён у складзе мясцовага чатырохасабовага музычнага калектыву. Быў пятнаццацігадовым хлопцам, калі дамовіліся заснаваць вясковы аркестр. І ў гэтым жа складзе іграюць да сёння. Хто не ведае музыкантаў з Малінік? Колькі то розных забаў ды вяселляў абслужылі!

— То хто іх там ужо злічыць, — гаворыць Уладзімір. Але найменш трыста вяселляў абслужылі. Вельмі люблю іграць.

Спорыцца праца ў Баршчэўскіх. Найважнейшае гэта дружнасць і ахвота. А гэта ў іх ёсць. Сведчаць аб гэтым вялікія плады, якія вырасцілі ў параўнальна кароткім часе. А таксама і той факт, што на працягу трох год сталі ў радах лепшых гаспадароў Малінік.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара




**Заказвала** Ніна Місеюк з Дубін.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Згадай, што могуць абазначаць мае сны. У адну ноч сніліся мне два. Была я на экскурсіі ў Варшаве. Калі яшчэ ўсе сядзелі ў аўтобусе, я пайшла ў магазін купіць які-небудзь матэрыял. Спадабаўся мне сіні аксаміт у кветкі. Прыгожая была б з яго спадніца з фальбанай, падумала я. Калі я хацела купіць гэты матэрыял, прыпомніла сябе, што ў мяне ў партфелі толькі 43 зл. Потым мы былі ў Палацы культуры і навукі. Перад палацам я чакала сваю групу. На экскурсіі было вельмі прыгожа. Малое возера. Дамы крытыя саломай і чарапіцай. Дарога, паабапал якой раслі вербы. Гэта быў толькі пачатак Варшавы. Потым я пайшла ў кіёск „Рух" па газету і які-небудзь сувенір. Да кіёска я не дайшла, а вярнулася да аўтобуса. Насупраць мяне ішлі тры хлопцы. Потым мы былі ў салоне, дзе была забава. Многа было моладзі. У час перапынку я стаяла каля вайсковых. Адзін з іх уступіў мне месца.

Другі сон. Калі я ела, у мяне з зуба вылецела пломба. Трэба ўжо вырваць гэты зуб. Другі раз яго нельга лячыць. Калі дакранулася языком, не было зуба. Гэта яшчэ лепш, не трэба рваць, а на яго месца можна ўставіць новы зуб, я палічыла, што ўсіх разам трэба ўставіць чатыры зубы. Зуб, які выпаў, я трымала ў руках. Ён быў з другім зубам спалучан дротам. Гэтыя зубы я выкінула.

Галена

**Галена!** Першы твой сон абазначае, што чакала цябе падарожжа, з якога, бадай, нічога не выйдзе. Другі сон амаль без значэння. Думаю, што проста ў цябе балелі зубы.

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка, памажы ты мне ў маіх клопатах. Я цяжарная і не магу канчаткова вырашыць — радзіць ці перарваць цяжарнасць. Я незамужняя, ды ўжо мне 33 гады. Калісьці, як была яшчэ маладой, хадзіла з хлопцам, думалі жаніцца, але мама не дазволіла, бо яшчэ вучылася ў вышэйшай школе. Сказала: закончыш вучобу — тады і выходзь. А хлопец мой ужо працаваў і хацеў жаніцца. Калі я не згадзілася, ён праз нейкі час выехаў у другі горад. Крыху пісалі, і так мала-памалу і кончылася наша каханне. І потым мне ўжо ніякі хлопец не спадабаўся. А без кахання я замуж выходзіць не хацела. Маю добрую кватэру і высокаплатную працу. І вось паўгода назад пазнаёмілася я з Генікам. Ён на пару год старэйшы за мяне. Прыходзіў да мяне амаль штовечар, быў вельмі добры, чуллівы, як кажуць, хоць да раны прыкладай. Мы ўжо між сабой і пра вяселле гаварылі. Толькі вось, калі я прапанавала паехаць да маіх бацькоў, да яго, з імі пагаварыць, ён нейк выкручваўся. І я зацяжарыла. Адразу сказала Геніку. Вельмі здзівіўся. Ад тае пары больш у мяне не паказаўся. Я ведаю дзе ён працуе. Але шукаць я яго не збіраюся. Я паехала на вёску і сказала маме. Мама адразу накінулася на мяне, сказала: рабі штосьці, такі сорам. Дзіця без бацькі! А мне якраз не хочацца рабіць нічога. Думаю нарадзіць дзіця, а выгадаваць яго я і сама змагу. Не патрабую нават аліментаў. Не буду прынамсі адна. Сэрцайка, а як ты глядзіш на маю справу? Напішы як найхутчэй.

Надзя з Б.

**Надзя!** Я якраз згодна з табой. Дзіця дасць табе радасць, мэту жыцця. Бо сапраўды ўжо па трыццатцы дзяўчына незамужняя адчувае самотнасць. А будзе ж яна з гадамі паглыбляцца. Найважнейшае, што маеш умовы, каб выгадаваць дзіця. Ад аліментаў не адмаўляйся. Не хоча дзіцяці, дык прынамсі па кішэні такога стукнуць.

**Сэрцайка**

## Ці ведаеце, што...

...гурткі вясковых гаспадынь (КГВ) у нашай краіне налічваюць амаль 1,5 мільёна членаў.

...Белавежу наведвае каля 130 тысяч турыстаў у год, у тым ліку і некалькі тысяч замежных турыстаў. (ця)

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Гаспадарка была куплена ў час супольнага жыцця мужа і жонкі — А. Пасля смерці мужа наследнікамі яго асталіся яго жонка і дачка Я., якая пражывае на гаспадарцы свайго мужа. Разам з А. на гаспадарцы пражывае яе другая дачка Т. ад іншага бацькі, якая па памершым не наследуе. А. ўжо 70 год, але гаспадаркай кіруе яе дачка Т. Я. лічыць, што гаспадарка па бацьку належыцца ёй, бо матка не здольна працаваць на гаспадарцы, а Т. як прыродная сястра ніякіх праваў на гаспадарку не мае. Ці суд, дзелячы гаспадарку, можа прызнаць гаспадарку жонцы, нягледзячы на яе ўзрост?

АДКАЗ: У асноўным суд не можа, дзелячы спадчыну, прыдзяліць гаспадарку асобе, не здольнай да працы па прычыне ўзросту або інвалідства. Аднак, калі гаспадарка была галоўнай крыніцай утрымання жонкі памершага і калі будзе сцверджана, што мае яна ўмовы для кіравання гаспадаркай з дапамогай блізкай асобы, у даным выпадку яе дачка, калі гэтая дачка мае кваліфікацыі для кіравання гаспадаркай, то няма перашкод да таго, каб гаспадарка была прызнана ёй. У нашым прыкладзе, калі дачка Т. мае кваліфікацыі для кіравання гаспадаркай, асабліва калі скончыла сельскагаспадарчую школу або курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, суд мусіць прызнаць першынство А., якая дагэтуль супольна з Т. кіравала гаспадаркай.

## Этнаграфічнае акенца



*Вугал хаты Андрэя Шаховіча з Сакоў Бельскай гміны.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## Куток практычных ведаў




### КАПУСТА

Падаем сёння некалькі рэцэптаў на стравы з капусты і мяса. Гэта стравы высокакаларыйныя, даступныя, аднак, толькі людзям здаровым. Гэтыя стравы могуць быць поўнасцю выкарыстаны як абед з аднаго блюда.

### ГРУДЗІНКА, ТУШАНАЯ Ў КАПУСЦЕ

На галоўку салодкай капусты трэба ўзяць паўкілаграма капчонай грудзінкі, 30 дэкаў марожаных памідораў, соль, перац, адну цыбуліну, лыжку мукі, лыжку тлушчу, зеляніну.

Пашаткаваную капусту пасаліць, крыху патаўчы, не адціскаючы соку, і пакінуць у місцы на 15 мінут. У каструльцы закіпяціць паўтары шклянкі вады, палажыць памытую і парэзаную на порцыі грудзінку, капусту, нарэзаную ў кружкі цыбулю, перац. Варыць, не накрываючы, 10 мінут, пасля накрыць і тушыць каля гадзіны. Тады дадаць падтушаныя і працёртыя памідоры, хвіліну варыць, а пасля гэтага заправіць страву засмажкай з тлушчу і мукі. Падаваць з бульбай, пасыпанай дробна нарэзанай зелянінай.

### КАПУСТА КАЛАШВАРСКАЯ

На 1 кг кіслай капусты трэба ўзяць паўкілаграма каўбасы, 1,5 шклянкі рысу, шклянку смятаны, соль, перац, 1 вялікую цыбуліну, 2 лыжкі тлушчу.

Да капусты ў каструльцы падліць крыху вады. Варыць, накрыўшы яе, каля паўгадзіны. Рыс зварыць, беручы 3 шклянкі вады, загатаванай з лыжкай тлушчу, пасля загарнуць каструльку ў газеты, фальгу і коўдру, пакідаючы так на 2-3 гадзіны. Цыбулю падтушыць на тлушчы, пасыпаць перцам. Цяпер рабіць страву: падрыхтаваць вялікую плоскую каструльку, змазаную тлушчам, і класці ў яе пластамі: капусту, рыс, каўбасу, парэзаную на скрылёчкі. Кожны пласт пасыпаць цыбуляй і спырснуць смятанай. Апошнім пластом павінна быць капуста. Уставіць каструльку ў гарачую духоўку і запякаць гадзіну.

### РУЛЕЦІКІ З КАПУСТЫ

Узяць 8-10 лісцяў капусты, столькі ж скрылькоў каўбасы (шынковай ці мартадэлі), 2 цыбуліны, соль, перац, 20 дэкаў марожаных памідораў або лыжку памідорнага канцэнтрату, 2 лыжкі тлушчу, лыжку мукі.

Лісце капусты палажыць у падсолены кіпень, абварыць на працягу 5 мінут, выняць, зрэзаць „жылку". Нарэзаную цыбулю падтушыць у лыжцы тлушчу, пасаліць і пасыпаць перцам. На кожны ліст капусты палажыць скрылёчак каўбасы (без скуркі), на яе крыху цыбулі, загарнуць, як галубцы. Палажыць у плоскую каструльку, падліць вады, накрыць і тушыць мінут 40. Дадаць падтушаныя і працёртыя памідоры або канцэнтрат, заправіць па смаку, хвіліну тушыць, пасля дадаць засмажку з мукі і тлушчу.

**Гаспадыня**




*РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЕРТЫ*

**АРЫШТ**

Гэта быў першы румынскі афіцэр, якога яны ўбачылі. Зацягнуты ў мундзір з рознымі многакаляровымі нашыўкамі на грудзях, ён стаяў ля зламанага плота, поўны ўсведамлення ўласнай годнасці і карціннай прыгажосці.

Румынскі афіцэр не варухнуўся, калі салдат, наблізіўшыся, аддаў яму чэсць. Толькі слаба, быццам з апошніх сіл, узмахнуў рукой, але, не данёсшы да брыля шапкі, стомлена апусціў яе ўніз.

— У чым справа, Маналеску? — спытаў ён, бачачы, як дзве незнаёмыя дзяўчыны прыпыніліся непадалёк. — Хто яны? Ты правяраў у іх дакументы?

— Правяраў, домнул лакатынент!.*

— Ласа.** Дык што ім трэба?

Лена зразумела, што гэта і ёсць камендант. Раздумваючы аб тым, якіх непрыемнасцей можна чакаць ад гэтага да краёў напоўненага ўсведамленнем уласнай улады афіцэра, дзяўчаты павольна накіраваліся да яго.

— Ну, што вы там топчацеся? — грубавата сказаў ён, даволі часта вымаўляючы рускія словы. — Вы адкуль?

— З Марыупаля, — адказала Лена, камечачы ў руках клуначак.

Афіцэр агледзеў дзяўчат крытычным позіркам. Стракатыя, пакамечаныя сукенкі, зблытаныя ветрам валасы выклікалі іранічную ўсмешку.

Ён коратка распытаў іх аб акалічнасцях справы. Маналеску пацвердзіў, што сапраўды раніцай правяраў у іх дакументы і яны былі ў поўным парадку.

— Так! — сказаў афіцэр. — Вельмі нядобра!

— Вы дасце нам даведку? — нясмела спытала Лена.

— Я павінен зняць з вас допыт! — сказаў ён, незадаволена паглядзеўшы на Маналеску, які казырнуўшы яму, кінуў на дзяўчат выразны позірк, нібы напамінаючы, што яны цяпер зноў перад ім у даўгу.

Калі Надзя закончыла свой расказ, лейтэнант на хвіліну адклаў ручку, пазваніў кудысьці, доўга па-румынску з кімсьці размаўляў, а потым злосна кінуў трубку.

— Я пашлю вас у раённую жандармерыю, — сказаў ён, пастукаўшы пальцам па краі стала. — Вамі будуць займацца там!

— А куды ісці? — спытала Лена.

— У Крэмідава. Там рускі начальнік жандармерыі.

Начальнікам жандармерыі Крэмідава сапраўды аказаўся рускі, па прозвішчу Левандоўскі.

Левандоўскі быў не такі ўжо дурны і разумеў, што ўладай трэба карыстацца ўмела.

Заглядаючы далёка наперад, ён хацеў на ўсякі выпадак мець „чыстыя рукі": хто ведае, як усё павернецца — вайна ж яшчэ не закончана.

— Ну, дзяўчаты, расказвайце, што нарабілі, — добразычлівым тонам спытаў ён у Лены і Надзі, калі дзяўчаты ўвайшлі да яго ў кабінет. — Якія ж вы, аднак лёгкадумныя! У наш час згубіць дакументы!

Расказваць у другі раз было ўжо лягчэй. Слухаў Левандоўскі задуменна, моршчыў лоб, усім сваім выглядам падкрэсліваючы, што ўважлівы да кожнага слова дзяўчат.

— Ну, дык што ж вы хочаце? — нечакана спыніў ён Надзю, якая паўтарала ўсё тое, што ўжо сказала Лена. — Новыя дакументы? З гэтым, дзяўчаты, давядзецца пакуль пачакаць! Дзем'янчук! — раптам крыкнуў ён у прыадчыненыя дзверы.

Тут жа парог пераступіў паліцэйскі.

— Вось іх, — Левандоўскі кіўнуў на дзяўчат, — пакуль патрымаем. Ці ёсць у цябе работа?

— Ёсць, Мікалай Пятровіч! Патроны перабіраць няма каму!

— Ну вось іх і прымусь!

У гэтага дня здавалася не будзе канца. Не надыдзе час для адпачынку, для спакою, для сну...

Калі Лена следам за паліцэйскім ішла па калідоры, яна раптам пахіснулася, сілы пакінулі яе.

Але, на шчасце дзяўчат, паліцэйскі глянуў у акно, за якім пачынала ўжо цямнець.

— Ну, добра! — сказаў ён. — Сёння адпачывайце, а заўтра з раніцы — за работу.

Ён падышоў да дзвярэй, уставіў у замок вялікі ключ, павярнуў яго і адсунуў засаўку.

Ледзь дзверы расчыніліся, як з глыбіні прасторнага пакоя на іх абрушыўся шум многіх галасоў.

Дзяўчаты міжволі спыніліся на парогу. На падлозе і на збітых з грубых дошак нарах сядзелі цыганкі ў страка-

Імпартгумар

# Добры чалавек

Усім вядома, што на гэтым свеце існую і добрае, і дрэннае. Ёсць добрыя і дрэнныя дні, добрыя і дрэнныя кніжкі, дарогі, будынкі, напіткі... Нават гузікі бываюць добрыя і дрэнныя. Людзі таксама бываюць добрыя і дрэнныя. Калі натрапіш на добрага чалавека, табе будзе прыемна і весела, ты будзеш ганарыцца тым, што нарадзіўся і жывеш у адну эпоху з ім, жыццё тваё будзе як свята. А калі такі чалавек будзе тваім кіраўніком, ты будзеш працаваць і спяваць, а, магчыма, толькі спяваць, не працуючы. Асабіста я зразумеў, чаго варты добры чалавек, калі пайшоў стары кіраўнік нашага прадпрыемства і прыйшоў новы. Так ужо бывае, што чалавек, страціўшы нешта, бачыць гэта страчанае ў яго сапраўдным выглядзе. З новым кіраўніком у мяне зусім здалі нервы, я захварэў на язву страўніка і пасівеў. Ён аказаўся гэткім няўжыўчывым і жорсткім чалавекам, што жыць з ім было немагчыма. А стары кіраўнік... О, стары быў шырокай высакароднай натурай. Прыйдзеш да яго, напрыклад, паведаміш, што з планам дрэнна, ён паглядзіць на цябе, усміхнецца па-бацькоўску і скажа:

— Дзіўны ты чалавек! Хіба ты хочаш людзей, як лімон, выціскаць? Вы так нацягніце, навярстайце, што магчыма!..

Вось так разважаў ён. Так клапаціўся аб чалавеку — самым каштоўным капітале нашага грамадства.

Або наведае часам той ці іншы цэх, заўважыць, што ў некага выгляд не зусім, і скажа:

— Я бачу, што ты нешта не ў сабе. Ідзі дадому, адпачні, падлячыся! Здароўе народа — гэта дзяржаўнае і грамадскае пытанне і ніхто не мае права ім пагарджаць!

А чалавек той не хворы, не, проста ўвечары выпіў лішку, пасварыўся з жонкай і цяпер з пахмелля галава ў яго трашчыць.

Ідзе ён дадому, адсыпаецца і на другі дзень прыходзіць на работу свежанькі. І яму добра, і начальнік задаволены, што па-прыяцельску, па-бацькоўску паставіўся да свайго падначаленага.

Ды хіба толькі гэта? Спатрэбіцца табе, скажам, дошкі. Падзелішся з ім сваім клопатам, ён свайму намесніку скажа, той — загадчыку склада, загадчык склада пакліча цябе, каб ты асабіста выбраў тое, што табе трэба. І грузавік дасць для дастаўкі дадому.

Калі я будаваў флігель для патрэб адміністрацыі, засталося шмат будаўнічага матэрыялу. Калі б наш начальнік быў эгаіст, скнара, ён задаволіў бы толькі свае патрэбы, але ў гэтага чалавека сэрца шырока адкрыта для ўсіх. Такім чынам і ў яго на вінаградніку з'явілася дача, і мы не засталіся без даху над галавой на сваіх участках.

А якія цудоўныя дні і ночы праводзілі мы ўлетку! Возьмем грузавік і айда на Сонечны Бераг! Два дні, тры дні... Рэстараны, аркестры, танцы... А ён тым часам загадае афарміць усё так, каб ні ў кога з нас кішэня не пацярпела і каб усё належным чынам па дакументах прайшло, і сумленне наша засталося чыстым.

Так ён і карыстаўся нашай павагай і любоўю. Усе яго любілі, у тым ліку і мая жонка, і дзеці, і цешча... А я па сённяшні дзень схіляю перад ім галаву і стаўлю сабе ў прыклад. Паліто гатовы яму падаваць, ногі мыць, а калі трэба будзе — і ў агонь за яго кінуся. Шкада толькі, што цяпер ён далёка, што я нават цыгарэты не маю магчымасці яму прынесці, — у д'ябла на рагах, у варненскім астрозе.

**Генчо Узунаў**
(Балгарыя)



**...Хор быў змешаны: адны ў ім умелі спяваць, другія — не.**

# НІЎКА

## АДЗІНАЕ СЛОВА

— Дзяўчына, я пакахаў вас з першага погляду. Я яшчэ не сустракаў такой чароўнай, як вы. Скажыце мне адно-адзінае слова, і я буду найшчаслівейшым чалавекам на свеце да самай смерці...

— Ёлуп!

## НАСТАЎНІЦА ВІНАВАТА

Міколка прыйшоў са школы раней тэрміну.

— Што, зноў правініўся? — пытае маці.

— Настаўніца сама вінавата. Яна сказала: паводзьце сябе, як дома. Я так і паводзіў сябе. І яна адправіла мяне дамоў.

*— Супакойся, Федзя, і пакажы, хто забіў нам гол...*



## Трымайце вуха!

*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

* * *

*Пакінем курыць фіміям...*
*Каму ён патрэбны: мне? вам?*
*Паверце; гарчыць і салодкі куродым...*
*Лепш хай прасвятлеецца одум.*
*Мы не дзеці! Хопіць хваліцца!*
*Лепей дадзім натаміцца*
*Розуму, спіне, рукам,*
*Суткам, тыдням, вякам,*
*Кранам, што высяць дамы, —*
*Толькі не языкам...*
*А то ўсё мы... мы... мы...*
*І паінькі, і анёлы, і цацы...*
*Колькі ж можна такім забаўляцца?..*
*Сонца і тое мае*
*Святло і цень,*
*І ў сонца ў самога бывае*
*Ноч і дзень.*
*Бо калі б гэтага не было, —*
*Хто знае, чаго б натварыла святло.*

**Алесь Бачыла**

## ДОКТАР ЗНАХАРУК

— Не магу, доктар, уначы доўга заснуць.

— Лічыце да трох.

— Ужо лічыў да чатырох.

— Тады — лічыце да пятай раніцы.

## НЯМА ДОМА

Заходзіць нейк Парфен да Кастуся.

— Кастусь, ты дома? Пазыч грошай.

— Не, мяне няма, — чуецца голас Кастуся ў другім пакоі.

— Ды вось жа твае чаравікі стаяць, — не адступае Парфен.

— А я ў іншых пайшоў, — адказвае Кастусь.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Па дарозе дамоў п'яны прыкмячае астранома-аматара, які аглядае неба ў тэлескоп. П'яніца таксама вырашыў глянуць на неба і тут жа ўбачыў падаючую зорку.

— Надзвычайна! — з захапленнем крыкнуў ён, звяртаючыся да астранома. — Вы, пэўна, найлепшы снайпер у горадзе!

✻

Пажылая багатая жанчына выйшла замуж за маладога.

— І як гэта ты змагла жаніць яго на сабе? — здзіўляюцца сяброўкі.

— Я яму сказала, што мне семдзесят гадоў, хоць мне ўсяго пяцьдзесят восем.

✻

Шчуплы невысокі каўбой заходзіць у бар. На яго дарозе стаіць другі — велізарны, магутны дзяцюк.

— Хочаш па фізіяноміі? — пытае маленькі, выпучыўшы грудзі.

— Так, — адказвае ганарыста дзяцюк.

— Тады ідзі ў суседні бар, я толькі што дастаў там па фізіяноміі...



*Без слоў.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Алены Сцепанюк і Крысціны Янчук з Барысаўкі змяшчаем песню*

## A TY MNIE CZEKAJ

**Słowa: M. Łebkowski, S. Werner**
**Muzyka: Stanisław Rososiński**

Tyle tu światła,
ile w ogniu, który wystygł,
tyle tu ciebie,
ile niosą twoje listy.

Tyle tu światła,
ile zmieszczą cztery ściany,
tyle tu ciebie,
ile nocy nieprzespanych.

A ty mnie czekaj nad szumiącą rzeką,
a ty mnie czekaj pod błękitnym niebem,
a ty mnie czekaj, tam gdzie woła echo,
gdzie nie było cię jeszcze w moim smutku,
czekaj mnie

A ty mnie czekaj i posyłaj listy,
a ty mnie czekaj wśród zielonych buków,
a ty mnie czekaj u strumieni czystych,
gdzie nie było cię jeszcze w moim smutku,
czekaj mnie.

W twych listach pachną
ciepłe dni przeszłego lata,
w twych listach szumi
nasza wierzba rosochata,

w twych listach dzwoni
ciemną ciszą noc gwiaździsta
i cała miłość,
nasza miłość jest w tych listach.

A ty mnie czekaj nad szumiącą rzeką...

# Курёзы

## ГАЛУБІНЫ ШАНТАЖ

Нядаўна ў невялічкім заходнегерманскім гарадку Херастофен голуб стаў сродкам шантажу. Пані Мукс атрымала паштоўку, а разам з ёю... клетку з голубам і невялічкую эбанітавую скрыначку, якая была прывязана да крылаў голуба. У паштоўцы катэгарычна прапанавалася: „Прашу пані Мукс укласці ў скрыначку 300 марак і выпусціць голуба. Калі вы гэта не зробіце, ваша дачка будзе забіта".

Звестка надта напалохала пані Мукс. Яна, надоўга думаючы, звярнулася ў паліцыю, а дачку зачыніла дома. Пачаліся тэрміновыя пошукі невядомага бандыта. Злашчаснага голуба апырскалі спецыяльным растворам, каб ён быў прыкметным і выпусцілі на волю. А ў паветры нёс дзяжурства паліцэйскі верталёт.

Голуб пакружыўся над домам пацярпеўшай і... спакойна апусціўся на галубятню, якая была абсталявана на даху гэтага ж дома. Гаспадаром галубятні аказаўся... трынаццацігадовы сын пані Мукс. Ён адразу ж ва ўсім прызнаўся і растлумачыў свой учынак проста:

— У нашых газетах і па тэлебачанню толькі і гавораць, што пра ўсялякія выпадкі рабаўніцтва і шантажу. Дык вось я і рашыў паспрабаваць, а ці можна было б, напрыклад, выкарыстаць для гэтай мэты маіх галубоў? Аказваецца, можна. А сваю сястру я вельмі люблю і шаную, і я ёй ніколі нічога кепскага не зраблю. Шкада, што трохі напалохаў маму, але ж — эксперымент удаўся...



## РАЗГУЛЯЎСЯ

Прыйшоў сусед да суседа ў госці, а той і пакінуў яго абедаць. Жадаючы зявіць свайму суседу, што нічым дзеля яго не пашкадуе, гаспадар абярнуўся да жонкі і кажа:

— Калі балявацъ, дык балявацъ: бі, жонка, і другое яйка ў боршч.




**Чым больш памылак зробіш, тым іх менш застанецца.**